

№7 (54)
Кастрычнік 2013

# Рэчыцкі агляд

Незалежнае выданне Выдаецца з 1999 г.

# «Дух - гэта, людзі, Сыс!»



***26 кастрычніка ў Гарошкаве сабраліся беларускія літаратары і аматары паэзіі, каб адзначыць дзень нараджэння Анатоля Сыса. Паэту-прароку, генію-расстрыгу споўнілася б у гэты дзень 54 гады.***

Свята паэзіі «Дух – гэта, людзі, я!» стыхійна ўтварылася восем гадоў таму, пасля смерці геніяльнага паэта. Памяць аб ім пачалі ўшаноўваць сябры-літаратары і сёстры Анатоля.

Спачатку збіраліся пад крыжам, усталяваным на магіле, дзе потым паўстаў помнік у форме крыжа з салаўіным гняздом каля скроні.

У мінулым годзе гомельская моладзь выткала ручнік для Анатоля, якім і ўпрыгожылі салаўінае гняздо. «Памірай, а жыта сей! Рунь пра сейбіта раскажа», – выбілі радкі на помніку.

Звыкла на панадворку хаты, дзе жыў Цішка (вясковая мянушка паэта) найбольш гучаць два словы «Сыс» і «Холадна!». У тым годзе паэтаў і бардаў нават снегам пазамятала.

З-за таго холаду ў літаратараў час ад часу ўзнікаюць думкі перанесці свята ў нейкае памяшканне. Але маленькая хацінка Цішкі наўрад ці змесціць усіх жадаючых дакрануцца да высокага слова.

А з «афіцыйнымі» памяшканнямі – цяжкавата. Здаецца, дамовіліся сябры СБП наконт выступаў сёлета ў Бронненскай школе (дзе вучыўся Сыс), ды нешта адміністрацыя навучальнай установы перадумала.

«Дзве-тры гадзіны выстаяць-выслухаць вершы-успаміны могуць толькі сапраўдныя аматары паэзіі. Тут збіраюцца вынослівыя людзі. Гэй, трактар-«Беларус!» Не заглушыць табе беларускую паэзію!», – жартаўліва прыгразіў трактару, які раз-пораз праносіўся паўз хату, паэт і крытык Міхась Скобла.

заканчэнне на стар. 2




## Речица: как транжирится районный бюджет

3-я старонка



## Речицкие экологи уснули

4-я старонка



## Як 25 гадоў таму паўставаў БНФ

5-я старонка

# «Дух - гэта, людзі, Сыс!»

заканчэнне, пачатак на стар. 1

Літаратары разважалі – на якую дату перанесці свята, каб не мерзнуць? На дзень смерці ў траўні? На 2 чэрвеня – калі ў раённай газеце быў надрукаваны першы верш паэта?

Пакуль жа вырашана ўсё-такі адзначаць дзень народзінаў святам паэзіі ў кастрычніку. Праўда, Алесь Пашкевіч падзяліўся, што ў наступным годзе, магчыма, усё-такі пройдуць паэтычныя чытанні ў роднай школе Анатоля.

Таксама ўзнікла дыскусія – ці варта выдаваць усё, што напісаў Анатоль? «Ён вельмі строга ставіўся да сваёй творчасці, і не друкаваў усё, што напісаў. Пасля смерці яго сястра знайшла дзве тэчкі з творамі, якія Анатоль не хацеў друкаваць пры жыцці. Гэта рэч этычная – ці варта друкаваць усё?», - разважаў Барыс Пятровіч.

Міхась Скобла казаў, што Анатоль Сыс, можа, і не вельмі шмат напісаў, але ён не запляміў сваю творчасць пустапарожнімі вершамі.

Загадчык кафедры беларускай літаратуры ГДУ ім.Ф.Скарыны, прафесар Іван Штэйнер падрыхтаваў новае эсэ пра творчасць свайго былога студэнта.

«Ніколі б мы не падумалі, што звычайны наш студэнт будзе вялікім паэтам. Праўда, ён заўсёды выдзяляўся сярод іншых сваёй няўрымслівасцю.

Хоць Анатоль і казаў, што «Я вучыўся ў гомельскім універмагу», але ён захоўваў патэтыку ў адносінах да ўніверсітэту, выкладчыкаў. Пра нашу кафедру ён казаў, што «Каб вас не было, дык і мяне б не было».

У эсэ я па-новаму спрабаваў разглядзець творчасць, спадчыну Сыса на фоне як беларускай, так і славянскай, еўрапейскай паэзіі. Мы толькі падступаем да даследавання яго спадчыны. Новае пакаленне будзе прыходзіць, перачытваць, а паэзія Сыса жыве – і будзе жыць», - падкрэсліў загадчык кафедры.

Новае пакаленне – дзеці паэтаў, таксама прысутнічалі на святце, і нават чыталі вершы. Так, на імпрэзе адзначыліся дэкламацыяй дачка Сяржука Сыса і Галіны Дубянецкай Станіслава і сын Ларысы Раманавай Ціхан.



Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч узгадваў, як 25 гадоў таму, у 1988 годзе Анатоль Сыс быў адным з арганізатараў «Дзядоў», і першы агучыў спіс рэпрэсаваных беларускіх літаратараў. «Заўсёды беларускія літаратары вызначаліся актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. Так было ў дваццатыя гады, так і ў васьмідзесятыя, калі паўставала адраджэнне. Беларушчына пайшла, можна так сказаць, з Гомеля. Менавіта тут жылі і працавалі ў 80-х Анатоль і Сяржук Сыс, Алесь Бяляцкі, Таццяна Сапач, Сяргей Дубавец», - дадаў старшыня СБП.

Вершамі ўзгадалі слыннага паэта Алесь Пашкевіч, Сяржук Сыс, Генадзь Лапацін, Ларыса Раманава, Усевалад Сцебурака, Аксана Данільчык. Песнямі ўшанавалі яго Зміцер Бартосік і Андрусь Мельнікаў.

Бард Вальжына Цярэшчанка паклала на музыку верш «Безназоўнае» Анатоля Сыса. Песня была прадстаўлена ў Гарошкаве ўпершыню.

Склалася традыцыя ахвяраваць свае новыя кнігі «хаце Сыса». Так калекцыя папоўнілася «Выбраным» Івана Штэйнера, кнігай пра абрад «Свяча» Генадзя Лапаціна і апошнім нумарам «Дзеяслова» з артыкулам Алеся Бяляцкага пра «Дзяды-88».

Кнігі беларускіх паэтаў і пісьменнікаў перадалі і настаўнікам Бронненскай школы.

Сталічныя паэты пасля афіцыйнай часткі адразу рванулі ў Менск. Гомельскія ж літаратары і прыхільнікі засталіся на нейкі час на панадворку, каб абмеркаваць былое і думы. У верандзе хаты Анатоля Сыса самотна сядзелі яго землякі, якія слухалі ў запісе з мінулагодняга свята паэзіі песню «Сяброў» «Жар-птушка» у выкананні Зміцера Бартосіка. Колькі разоў вяскоўцы нанава ставілі «Павуцінка ўверсе, павуцінка ў верасе, Павуцінка ў тваіх і у маіх валасах».

Пад вечар разышліся і вяскоўцы. Засталася ў хаце адна Тамара Ціханаўна, сястра паэта.

***

***Анатоль Сыс нарадзіўся 26 кастрычніка ў Гарошкаве. Скончыў ГДУ ім.Ф.Скарыны. Друкаваўся ў 1974 года. Выдаў зборнікі паэзіі «Агмень», «Пан Лес», «Сыс». Зборнік «Лён» выйшаў з друку пасмяротна. Памёр у траўні 2005 году.***

***«Беларусь мая, мая магіла, з бел-чырвона-белага радна.***
***Ці кашулю мне на смерць пашыла?***
***Беларусь мая, мая магіла.***
***Ты ж адна ў мяне, як ёсць адна».***

Юлія Шымкевіч, "Наша Ніва"

# Речица: как транжирится районный бюджет

На улице Советской с 1961 года функционировала гостиница. Лучшего места для нее трудно было найти. Центр, хорошие подъездные пути, стоянка, напротив ресторан, совсем немного пройти – набережная Днепра, кинотеатр, близость остановок общественного транспорта во все направления. Внутри гостиницы – парикмахерская. На первом этаже – кафе.




Но вот к славному празднику «Дожинки» было решено сделать из гостиницы милицию. Очень оригинальное решение – и очень «экономное». Полностью перестроить, реконструировать, переселить. А 7 октября 2013 года, как раз к юбилею города, мы получили еще один милицейский «подарок» – новый СИЗО. Его построили сразу за зданием реконструированной гостиницы.

В интервью районной газете «Днепровец» начальник Речицкого РОВД Андрей Силков рапортовал: «Мы включены в государственную программу по строительству изолятора временного содержания. Некоторое время из-за недостатка финансовых средств, стройка была заморожена. Сейчас деньги поступают вовремя, полностью осваиваются, и мы рассчитываем ко Дню города открыть этот административный объект, который облегчит нашу работу».

А что же с гостиницей? Может, в наш славный город перестали приезжать гости?

Отнюдь. Гостиницы в Речице тоже строятся. Вернее – перестраиваются. 6 июля 2012 года начал работу мини-отель экономкласса «Ведрич». Расположен он по адресу К.Маркса, 30, в здании, где ранее располагался суд. Здание это вплотную примыкает к бывшему зданию милиции. Целесообразнее бы было, при необходимости расширения здания милиции, приобщить задание суда (рядом стоящее) к зданию милиции, а не разрушать гостиничный комплекс по ул. Советской. Но власть решила почему-то пойти на странную «рокировку».

На то, чтобы бывшее здание суда превратить в уютное место для проживания, потребовалось порядка полугода. Проведен ремонт. В номерах все новенькое: окна ПВХ, мебель, бытовая техника, посуда и т.д. А из окон можно наблюдать старый СИЗО, который гостям гостиницы вряд ли пригодится.

К новой гостинице «Ведрич» подъехать очень сложно. Со стороны улицы К.Маркса висит «кирпич». Такой же знак висит и со стороны улицы Советской. Сама улица К.Маркса очень узкая, стоянки отсутствуют, что приносит лишние неудобства гостям города.

Отель носит название реки, которая протекает в нашем районе. Хотя известно, что в процессе реконструкции объекта рассматривались различные варианты названия. Например, было предложение назвать мини-гостиницу «Тихая гавань» (местечко действительно подходящее) или «У Карла» (расположена по улице Карла Маркса). Самый смелый вариант – отель «15 суток». Так сказать, привет бывшим хозяевам здания.

История эта – наглядный пример нерационального расходования районного бюджета.

Сергей Линкевич

# Праблему смяротнага пакарання абмеркавалі ў Рэчыцы

Сустрэча-дыскусія, прысвечаная праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі адбылася ў мінулыя выходныя, 12 кастрычніка, у Рэчыцы. Яна была арганізаваная кіраўніком мясцовага аддзялення Праваабарончага цэнтру “Вясна” Валерыем Пуціцкім.

У якасці эксперта выступіў каардынатар кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання” Андрэй Палуда.

Праваабаронца распавёў пра дзейнасць кампаніі, пра незваротнасць такога пакарання, як смяротнае, прывёў асноўныя аргументы супраць смяротнай кары, азнаёміў са статыстыкай смяротных прысудаў.

Мясцовыя актывісты і прадстаўнікі грамадскіх рухаў і партый змаглі задаць хвалюючыя іх пытанні, выказалі сваё меркаванне па тэме дыскусіі.

Раман Карпаў

# Речицкие экологи уснули

В Речицком районе вдоль Днепра очень красивые и живописные места, недаром здесь расположены около пятидесяти Агро усадеб, здесь все сделано для хорошего отдыха не только жителей нашего района, но и для туристов из других стран.

Недавно проезжал по автодороге ведущей в д. Горваль. Возле поворота на Стасевку, справа от дороги протекает могучий Днепр, а слева сразу за поворотом на Стасевку образовалась огромная свалка, которую лице зреют проезжающие туристы, что подумают о нашем отдыхе увидев огромную свалку, которая вытесняет пахотные земли, а мусор от свалки разлетается по пашне.

Это уже не первое обращение в отдел Экологии, мы уже писали о свалке возле деревни Волчья Гора, которая выросла в результате



вырубки деревьев вдоль автодороги ведущей из Речицы в Хойники. Вроде в результате вырубки увеличили посевные площади, хотя они сомнительные, но с другой стороны устроили свалку на хорошем поле. На наши устные заявления Павленко Ю.М., отмахивается и даже угрожает, мол не лезь куда не следует, будем писать письма с уведомлениями в Речицкую инспекцию и дублировать в Гомельскую областную экологию.

До недавнего времени Речицким отделом Экологии руководил Калиновский Г.Я., при котором такой свалки, просто не могло быть, а сейчас отделом Экологии руководит Павленко Ю.М., который наверное ходит на работу для того чтобы получать зарплату, а не для того чтобы работать. Возможно, Павленко просто занимает не свое место?

Олег Шабетник

# Речицкий аферист попался на незаконной сдаче чужих квартир по всей Беларуси

В Минске задержали 23-летнего жителя Речицкого района, который незаконно сдавал в аренду не



пренадлежащие ему квартиры.

Молодого человека арестовали после очередной аферы, совершенной в Минске. Он снял на сутки квартиру по проспекту Независимости. После этого сразу подал объявление в интернет о ее сдаче на длительный срок. Престижный район, в котором расположена квартира, и относительно недорогая арендная плата (350 долларов) сразу привлекли внимание потенциальных съемщиков.

Первой жертвой оказалась молодая пара, которая внесла предоплату за два месяца. Через несколько минут в гости к «хозяину» пришли очередные клиенты и заплатили $200.

Аферист обещал обоим клиентам на следующий день привезти ключи и договор об аренде, но в тот же день уехал в Могилев.

Подозреваемого задержали сотрудники Партизанского РУВД. Они выяснили, что задержанный уже шесть раз был судим. Он не отрицает свою вину, но в содеянном не раскаивается.

По данным оперативников, от действий мошенника пострадали десятки жителей разных областных центров Беларуси, в том числе Гомеля. Зовут его **Галкин Анатолий Сергеевич**. Всех пострадавших просят позвонить по телефонам: 8 (017) 230-34-34, 8 (044) 715-97-95.

Роман Карпов

# Что будет со "Славянским" рынком?

Уже который месяц, руководство рынка «Славянского» держат предпринимателей в неведении относительно судьбы данного рынка.

13 октября, Совет предпринимателей рынка «Славянский» в составе Олега Шабетника, Галины Великоборец, Феликса Кушевского, Алексея Жерносенко, посетили зам. председателя исполкома города Речицы, С.Б. Ярца. Вопрос, с которым, обратились к представителям власти предприниматели – продажа рынка «Славянского». Руководство исполкома пообещало, что в ближайшее время организует встречу предпринимателей с руководством облпотребсоюза. Своё обещание представители власти сдержали. Встреча состоялась в пятницу, 18 октября.

Руководство облпотребсоюза сообщило о том, что рынок выставлен на аукцион и предложило предпринимателям участвовать самим в этом аукционе.

Предпринимателей возмутила оценочная стоимость их торговых мест. Торговое место, по оценочной стоимости, приблизительно оценено в 32 миллиона рублей. В то время как построить новое торговое место стоит 23 миллиона. Разница, согласитесь, существенная. И конечно никто из предпринимателей не хочет переплачивать.

Ещё один загадочный вопрос в оценке объектов данного рынка. Вопрос этот касается туалета. Его оценили в 115 миллионов рублей. Туалет не работает уже несколько лет. Так как его закрыла “санитарная станция”. Туалет этот представляет собой – обычную яму. На соседнем рынке (прилегающая территория) функционирует современный туалет, который построен не так давно. И обошёлся он в 100 миллионов рублей.

Возникает резонный вопрос кому и за чем понадобилась эта сомнительная сделка? Интересно, зачем кому-то покупать старое, не работающее здание туалета, которое нужно сносить? Во всём этом кроется какая-то тайна. Не отмывание ли это денег?






Олег Шабетник

## В Речице молодая женщина обокрала универмаг «Ведрич»

С заявлением в милицию обратилась администрация торговой точки, сообщив, что из торгового зала пропали женские сапоги, две шапки из лисицы и палантин на общую сумму около 5,5 миллиона рублей.

Вскоре злоумышленник был установлен. По подозрению в совершении кражи задержана 24 летняя жительница Гомеля, ранее уже судимая за аналогичное преступление. Похищенный товар частично изъят, сообщили в отделе информации и общественных связей УВД облисполкома.

## Житель Речицкого района сел в такси с цыганами – уже месяц о нем ничего не известно

Поисково-спасательное объединение «Симуран» разыскивает очередного пропавшего – на этот раз жителя деревни Козье Речицкого района, который 27 сентября сел в машину с цыганами.

В сообщении поисково-спасательного объединения отмечается, что 50-летний Новиков Сергей Викторович 27 сентября около половины шестого вечера сел в такси с «лицами цыганской национальности». Через полчаса он позвонил сестре с неизвестного номера и сообщил, что едет в Гомель. После этого С.Новиков на связь не выходил, его местонахождение до настоящего времени не установлено.

Напомним, двумя днями ранее «Симуран» объявил о розыске двух пропавших – жительницы Светлогорска Ж.И.Володько и жлобинчанина А.А.Зеникова. А еще недавно в розыске числился житель Лельчиц Александр Акулич, через неделю после начала поисков обнаруженный убитым.

Ян Ильин

# Як 25 гадоў таму паўставаў Беларускі Народны Фронт

**19 кастрычніка, споўнілася 25 гадоў ад заснавання Беларускага Народнага Фронту.**
**З гэтай нагоды свае гісторыі распавялі Вінцук Вячорка, Сяржук Сокалаў-Воюш, Валянцін Голубеў і Аляксей Марачкін. Успаміны, якія дадуць вам магчымасць па-новаму паглядзець на гісторыю Беларусі.**

Вінцук Вячорка, адзін з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту, старшыня Партыі БНФ з 1999 па 2007 год:

– Прычын утварэння БНФ было некалькі: агульны працэс аднаўлення нацыянальнай свядомасці, дэкамунізацыя, крах савецкай мадэлі, праца нацыянальна-дэмакратычных сіл у 1960-1980-я.

Шокам для соцен тысячаў, а магчыма, і мільёнаў чалавек стаў артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты – дарога смерці», які быў надрукаваны ў штотыднёвіку «ЛіМ» 3 чэрвеня 1988 года.

Тэкст паказаў, якую страшную таямніцу хавае ўяўная беспраблемная і шчаслівая савецкая рэчаіснасць, якім коштам дасягалася аднадумства. Людзі, якія мелі пачуццё чалавечнасці, былі абураныя і жадалі перамагчы няпраўду, якая пачала асацыявацца з камуністычнай сістэмай.

У маім коле, у людзей, якія стваралі Канфедэрацыю беларускіх суполак і падпольную групу «Незалежнасць» (Віктар Івашкевіч, Ігар Гермянчук, Алесь Бяляцкі, Сяргей Дубавец, Алесь Суша, Гэнік Лойка і інш.), прыблізна ў ліпені-жніўні 1988 года ўжо была гатова канцэпцыя стварэння масавага нацыянальна-дэмакратычнага руху. Мы бралі прыклад з Прыбалтыкі, дзе увесну-ўлетку адзін за адным ствараліся народныя фронты.

Пра штосьці вельмі падобнае разважаў Зянон Пазьняк і яго група.

Аляксей Марачкін, сябра аргкамітэту БНФ, першы старшыня мастацкай суполкі «Пагоня»:

– Мы, мастакі, і Зянон Пазьняк, як навукоўца, да утварэння БНФ патаемна збіраліся на кватэрах. Ніколі не забуду, як на адной сустрэчы ў сярэдзіне 80-х Зянон Станіслававіч звярнуўся да групкі мастакоў і пісьменнікаў:

а што хлопцы, ці гатовы мы духоўна і маральна да сітуацыі, калі ляснецца Савецкі Саюз?

Нехта скептычна усміхнуўся: ну як гэта, такая машына і ляснецца? А Пазьняк ужо рыхтаваўся да гэтага.

Сяргей Навумчык, каардынатар Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання, лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтру імя Алеся Адамовіча за кнігу «Сем гадоў Адраджэння, альбо фрагменты найноўшай беларускай гісторыі (1988—1995)»

– Я добра памятаю вечар 19 кастрычніка 1988 году, калі мы разам з Уладзімерам Арловым сядзелі на на ўстаноўчым сходзе грамадска-асветніцкага таварыства памяці ахвяр «Мартыралог Беларусі» ў Чырвоным касцёле (тады там месціўся Дом кіно). У залю па загаду ЦК было нагнана сотні дзве ветэранаў, «перадавікоў вытворчасці», якія абурана крычалі і нават тупалі нагамі. Але яны зрабілі тактычную памылку: занялі апошнія шэрагі, а мы селі наперадзе.

Там быў такі ключавы момант: трэба было выбіраць старшыню «Мартыралогу», які павінен быў весьці сход далей. І ад яго залежыла, ці будзе пастаўлена на галасаванне пытаньне аб утварэнні Аргкамітэту Народнага Фронту.

Прагучала прапанова абраць Пазьняка. Супрацоўнік ЦК спрабаваў сарваць галасаванне, але вельмі рашуча павёў сябе Васіль Быкаў – ён проста вырваў мікрафон з рук камуністычнага функцыянера і паставіў на галасаванне кандыдатуру Пазьняка.

Камуністы нагэтулькі былі ашаломленыя, што нават не ўзнялі рукі супраць! Людзі горача віталі прамоўцаў, а мне дык і самому пашчасціла выступіць. Потым у мяне былі сотні прамоваў – і на сэсіях парламента, і на шматтысячных мітынгах, але той выступ для мяне самы запамінальны, бо перапаўнялі эмоцыі. І пры гэтым, што цікава, у нас з Арловым было поўнае ўсведамленьне гістарычнасці гэтага вечара. Але хутка эмоцыі саступілі месца напружанай працы.

Вінцук Вячорка: Напярэдадні 19 кастрычніка нас з Алесем Сушам забралі на зборы запаснікоў у Мар'іну Горку. Але мы на нейкім паламаным «Запарожцы» уцяклі адтуль (вярнуліся назад уначы) і прыехалі ў Менск у чым былі – у лейтэнанцкай форме. У Доме кіно нас сустрэлі радаснымі воклічамі: «Армія з намі!».

Да Дзядоў мы правялі сур'ёзную інфармацыйную кампанію. Але і ўлада рыхтавалася.

30 кастрычніка была перакрыта апошняя на той час станцыя метро, і перад месцам збора, Усходнімі могілкамі, дзе зараз знаходзіуцца вуліца Каліноўскага, стаялі кардоны міліцыянераў і людзей ў цывільным.

Аляксей Марачкін: 30 кастрычніка я пайшоў на Дзяды усёй сям'ёю – з жонкай і сынам. Да Усходніх могілак сцякаліся ручайкі з усяго горада. Ля ўваходу стаялі машыны, крычалі з мацюгальнікамі міліцыянеры. Яны хацелі скруціць Пазьняка, але жанчыны сталі кальцом і абаранялі яго. А мяне вось схапілі, кінулі ў машыну. Жонка – за мною (ніколі не думаў, што яна такая смелая), а за ёю і Ігар. Прывезлі нас ў пастарунак, дзе ўжо знаходзіўся Алесь Пушкін. Абвінавацілі ў тым, што мітынг быў недазволены. Гадзіны чатары пратрымалі, за гэты час паход на Курапаты ўжо скончыўся.

Вінцук Вячорка: Мяне спрабавалі завалакчы ў «Жыгулі», але людзі вырвалі мяне і «агародамі» я ўсёткі далучыўся да астатніх. Да Курапатаў большасць людзей, як вядома, не дайшла. Мітынг правялі ў полі, куды завярнула калона, пасля чаго адбыўся

# Як 25 гадоў таму паўставаў Беларускі Народны Фронт

разгон. Масавасць, шматтысячны натоўп, я думаю, прадухілілі найбольш дзікі варыянт паводзінаў уладаў. Не выключана, што яны былі гатовы да тбіліскага ці рыжскага сцэнароў.

Але ў выніку абмежаваліся спробамі сілай выхапіць лідараў з натоўпу і нейтралізаваць іх слезатачывым газам. Садзіць на суткі ўлады яшчэ не дадумаліся.

Аднак многіх пасля пераследвалі, у тым ліку Алеся Бяляцкага, якому прысудзілі штраф. Людзі праявілі салідарнасць, грошы для выплаты сабралі яго калегі па Інстытуце літаратуры Акадэміі навук.

Дэманстрацыя сілы з боку ўладаў наклалася на шок ад ведаў пра Курапаты. Газеты пісалі пра газ і збіццё. Пасля гэтага было дастаткова даць караценькую інфрмацыю пра тое, што групы падтрымкі БНФ ствараюццца па ўсёй краіне (па месцы працы, вучобы і г.д.) і дадаць кантактны тэлефон і адрас (на той час Дом літаратара).

Прыйшлі сотні заяваў, што на заводзе, у мястэчку створана група падтрымкі БНФ.

У Фронт увайшлі моладевыя суполкі, нацыянальна свядомая інтэлігенцыя, рабочыя, супрацоўнікі ўсіх інстытутаў Акадэміі навук, супрацоўнікі універсітэтаў, таго ж хімфаку БДУ. Пасля разгону на 30 кастрычніка 1988 года БНФ ператварыўся ў агульнанацыянальны рух.

Сяржук Сокалаў-Воюш, бард, аўтар гімна БНФ «Фронт»:

– Гэта быў агульны ўздым, і мы ўсе былі як вялікая сям'я. Мяне ніхто спецыяльна не запрашаў на акцыі, мяне запрашала туды маё сумленне. Мой народ стаіць на плошчы, чаму я мушу сядзець у хаце? І для каго я ў рэшце рэшт пішу? Калі ў Менску мы стаялі на плошчы і прыходзілі звесткі, што ў Воршы людзі селі на рэйкі і не прапускаюць цягнікі, мы сядалі ў машыну і я ехаў туды, бо адчуваў, што я там патрэбны. Я ж пачынаў пісаць па-руску, у часопісе «Кругозор» выйшла падборка з маімі вершамі, мяне запрашалі вучыцца ў Маскву. Але ў адзін цудоўны момант чалавек пачынае разумець, што ён зусім не той, каго з яго зляпілі. Родная мова мяняе чалавека.

Калі ў савецкія часы працаваў настаўнікам у школе, прапанаваў дырэктару ўпершыню зладзіць агляд самадзейнасці па-беларуску. Да мяне прыйшоў Вадзім Навіцкі, настаўнік фізкультуры і музыка, сказаў: маю цудоўную мелодыю, напішы да яе словы. І вось аднойчы на адной педагагічнай радзе, дзе як звычайна не было чым заняцца, я напісаў гэты тэкст.



Песня «Фронт» была створана пасля першага дазволена мітынгу БНФ, які прайшоў на стадыёне «Дынама» у пачатку 89-га. Мы вярталіся ў Наваполацк, і, відаць, у цягніку былі напісаны гэтыя радкі. «Фронт» на ўсіх маіх выступах у тыя часы быў загалоўнай песняй.

У Наваполацку нас было некалькі дзесяткаў. У БНФ ішлі мае былыя вучні, ішлі рабочыя, а вось інтэлігенцыі было не так шмат. Мы былі рамантыкамі, былі гатовыя ахвяраваць сваім дабрабытам, сваім часам. Мой сын Стась быў са мною на ўсіх мітынгах.

Аляксей Марачкін: Яшчэ адна ўнікальная падзея адбылася ў лютым 1990 года. Як сказаў Зянон, такое здарылася упершыню на тэрыторыі Савецкага Саюза. Напярэдадні выбараў на З'езд народных дэпутатаў СССР на плошчы Леніна адбыўся 100-тысячны мітынг. Пасля яго калона рушыла да будынка рэспубліканскага тэлебачання на вуліцу Камуністычную.

Мы папрасілі прадаставіць нам просты эфір: цывілізавана, культурна, спасылаючыся на народ («каб не было кровапраліцця»).

Нас папрасілі накіравацца ў студыю на Макаёнка. Мы селі ў машыну, разгарнулі бел-чырвона-белы сцяг і паехалі. Выступалі утрох: Пазьняк, Вячорка і я.

Вінцук Вячорка: Казалі пра крызіс камуністычнай ўлады, пра неабходнасць самастойнасці Беларусі, пра наша права доступу да агульнанацыянальных СМІ.

Валянцін Голубеў, каардынатар Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканння, доктар гістарычных навук:

– Я люблю і ўмею выступаць. Калі выступаеш перад аднадумцамі, гэта акрыляе і цябе, і людзей. У пачатку 90-х я выступаў перад аўдыторыямі ў дзесяткі тысяч чалавек, і мы былі адным цэлым. Асабліва важнымі былі для мяне выступы перад рабочымі ў час страйку 1991 года. Тады цяжка было адчуць: ці людзі выйшлі толькі з-за каўбасы, ці ўжо і за незалежнасць і дэмакратыю. Нам, прадстаўнікам БНФ, прыйшлося ўзначальваць рабочы рух. І атрымалася! Людзі пачалі патрабаваць ад уладаў суверэнітэту.

Напачатку не было фіксаванага членства ў Народным фронце. Мы ўсе, хто прычапіў сабе бел-чырвона-белы значок, лічылі сябе сябрамі БНФ.

Актыўна я далучыўся да руху ў 1990 годзе. Мы разам з Зянонам Пазьняком працавалі ў Інстытуце гісторыі. Я сядзеў на другім паверсе, а ён з археолагамі на трэцім. І калі абвясцілі выбары ў Вярхоўны Савет, Зянон Пазьняк прапанаваў мне пайсці на іх ад БНФ.

Супернікамі па Алібегаўскай акрузе сталі сярод іншых рэктар

заканчэнне на стар. 8

# Як 25 гадоў таму паўставаў Беларускі Народны Фронт

заканчэнне, пачатак на стар. 6

педуніверсітэта, генерал і сакратар ЦК камсамола. Але мне было вельмі проста з імі змагацца. Мясцовыя жыхары добра мяне ведалі і самі вылучылі маю кандыдатуру. Я ўжо тады выступаў як нацыяналіст, адкрыта крытыкаваў партыю і казаў, што БНФ выступае за незалежнасць. Палітыка камуністаў і Масквы ўжо усім надакучыла, не было ні каўбасы, ні туалетнай паперы – нічога. Людзі лягчэй падтрымлівалі змены.

У Апазіцыю БНФ у Вярхоўным Савеце ўвайшло 27 чалавек. Я лічу, што на 1990-1991 гады прыпаў пік дзейнасці Народнага фронту.

Самыя нашыя яскравыя перамогі: прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, законаў аб назве дзяржавы, дзяржаўнай сімволіцы, грамадзянстве, культуры.

Лёсам было вызначана, што я напісаў першую «балванку» для Дэкларацыі аб незалежнасці – літаральна за ноч па просьбе Пазьняка. Затым яе раздалі для вывучэння дэпутатам. У апошні момант туды ўпісалі, што Беларусь выступае за заключэнне новага саюзнага пагаднення. Знаходзячыся ў залі, мы бачылі, што камуністычная большасць не будзе галасаваць за прыняцце Дэкларацыі. Тады Пазьняк вырашыў рызыкнуць і заявіў, што апазіцыя БНФ не будзе галасаваць за Дэкларацыю, дзе прысутнічаюць словы пра новае саюзнае пагадненне. Пайшла рэакцыя: ах, вы не будзеце, тады мы яе прымем! Хітрасць спрацавала!

Аляксей Марачкін: Народ да скону СССР быў непадрыхтаваны. Памятаю, як прыехаў у сваю вёску на Віцебшчыне, і старэнькая цётка Валька кажа мне: ай-яй-яй, а што ж гэта будзе, апынемся мы ці пад палякамі, ці пад немцамі. Я кажу: ды не цётка, будзем мы самастойнымі.

Сяржук Сокалаў-Воюш: Запомнілася, як пасля змены Вярхоўным Саветам дзяржаўнай сімволікі, мы ўсталявалі бел-чырвона-белыя сцягі ў Полацку і Наваполацку. Была субота ці нядзеля, мясцовыя ўлады нам сказалі, што памяняюць сцягі афіцыйна ў панядзелак. Аднак мы вырашылі ўсё зрабіць самі.

У Полацку нас не пускалі ў мэрыю, выклікалі міліцыю. Мы з Васілём Храмцовым усё ж залезлі на дах і ўсталявалі бел-чырвона-белы сцяг.

З 80-х я нашу бел-чырвона-белую стужачку на галаве. У савецкія часы нацыянальны сцяг быў незарэгістраванай сімволікай, таму вось такі знайшоўся выхад. І зараз, калі жыву ў ЗША, і еду ў Нью-Ёрк ці яшчэ некуды, яна са мною.

Са стварэннем БНФ мы атрымалі магчымасць адкрыта выйсці да людзей з палітычнымі і культурнымі патрабаваннямі, чаго не было ў ранейшыя савецкія часы. І галоўнае, што сённяшняе пакаленне, хоць і не беларускамоўнае, адчувае сваёй радзімай Беларусь.

Вінцук Вячорка: Той час даказаў, што ўсе мае юнацкія ідэалы, мая палітычная праца (падпольная і яўная, якой я займаўся з 17 гадоў) мелі сэнс. Высветлілася, што гэта было не іншадумства, а думанне ў правільным кірунку.

Сяргей Навумчык: Ужо ніхто, здаецца, не аспрэчвае, што БНФ і Пазьняку належала галоўная роля ў здабыцці Беларуссю Незалежнасці 25 жніўня 1991 году. Аднак варта памятаць, што дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце падрыхтавалі канцэпцыю пабудовы Беларусі як дзяржавы – уключна з эканамічнай праграмай і дзесяткамі законапраектаў, ад грамадзянства да Зямельнага кодэксу. І хаця шмат якія нашыя прапановы адвяргаліся, альбо прымаліся ў няпоўным выглядзе – нам удалося закласьці падмуркі дзяржаўнасці.

Руслан Гарбачоў



*“Рэчыцкі агляд” №7(54)*
*Галоўны рэдактар - **Валерый Пуціцкі***
*Наклад 299 экз. надрукаваны на ксераксе*
*Распаўсюджваецца бясплатна*

**www.rechyca.org**